ГОД V ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ № 4 (43)
1951 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ

а. Леў — Пазнайма сваю псыхіку ........................ 1
а. Л. Гарошка — Што дало Беларусі хрысьціянства? ........ 3
а. Ч. Сіповіч — Кіеўская Мітраполія ў другой палавіне XVIII стаг. (Працяг 3) ........................ 5
Т. Малько — Супэратомная бомба ........................ 7
А. Жменя — Абышлося бяз цуда ........................ 8
Н. Н. — Божа! (верш) ........................ 9
А. Н. — Тыдзень Беларускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў ...... 10
Дэлегат — Зьезд «Пакс Романа» ў Рэймсе ........................ 11
На рэлігійнай ніве ........................ 12
Беларуская хроніка ........................ 14
Пошукі ........................ 16
Абразкі з жыцьця ........................ ***

« SUR LA VOIE DIVINE »

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année V. № 4 (43) Juillet-Août 1951

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 50 фр. | 300 фр. |
| Англія | 1 ш. 5 пэн. | 7 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 1 ш. 10 пэн. | 9 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 45 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. |
| Нямеччына | 70 пф. | 4 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI$^e$.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:
**Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.**

У АЎСТРАЛІІ:
**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE, Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:
**Mr. Vostrykau Michel, 8, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Наша Краіна. Літаратурная чытанка 300 фр. — 6 шыл. 10 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутна Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**УВАГА!**
Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Чужую бяду пальцам разьвяду, а на сваю рады не знайду.
Чужымі сьлязамі не разжывешся.
Чужым розумам разумны ня будзеш.
Чужы хлеб смачны да ня сытны.
Чужых людзей слухай, а свой розум мей.
Чужыя хвалячы замкі, ня гань свае клямкі.
Чым болей маем, тым хцівейшыя бываем.
Чым гаршчок накіпіць, тым і пахнець.
Чыя душа часныку ня ела, то й пахнуць ня будзе.
Чэраз сілу і конь не пацягне.
Шануй адзежу дома, а яна цябе ў людзях.
Што занадта, то і сьвіньні не ядуць.
Што знаем — за плячыма ня носім.
Што каму баліць, той аб тым і крычыць.
Што качан, то галава; а што галава, то розум.
Што край, то абычай; а што старана, то навіна.
Што пасееш, то й пажнеш.
Што плюнеш, таго не падымеш.
Што сабе ня міла, таго і другому ня зыч.
Што сёньня зробіш, таго заўтра ня будзеш рабіць.
Што хараша, то само сябе хваліць.

**БОЖЫМ ШЛЯХАМ**

Год V. ЛІПЕНЬ — ЖНІВЕНЬ. 1951. № 4 (43).

# Пазнайма сваю псыхіку

У старых рымлянаў калісь была шырока ведамая прыказка: «Ясныя дагаворы робяць шчырых прыяцялёў». Гэтыя глыбокія і разумныя словы подыктавала векавая практыка. Калі-б у сучасным грамадзкім і асабістым жыцьці было больш шчырасьці, напэўна было-б менш непаразуменьняў і больш прыязьні. Гэта ў аднолькавай меры адносіцца да ўсяго людзтва, як і да кожнага чалавека паасобку. Мы, беларусы, з гэтага гледзішча не зьяўляемся выняткамі.

Яснасьць дагавораў і шчырасьць адносінаў вымагае перш-на-перш дакладнага ўзаемапазнаньня, дзеля гэтага напэўна ня будзе бескрысным, хоць крыху ўважней прыглянуцца сваёй псыхіцы і, пазнаць свае так лепшыя бакі, як і нястачы, каб ведаючы іх, можна было ў дачыненьнях з нашымі бліжнімі дайсьці да тых «ясных дагавораў».

Паміж нешматлікімі дасьледнікамі, якія займаліся пытаньнем беларускае псыхікі, пануе пагляд, што беларусы зьяўляюцца найбольш спакойным славянскім народам; беларус для сьвятога супакою можа ахвяраваць шмат «каб толькі было ціха ліха». Што беларусы любяць спакойнае жыцьцё, гэта праўда, але яна не азначае, што беларусы зьяўляюцца выняткам спаміж славян і ня маюць так званае «славянскае сварлівасьці». Хоць у сапраўднасьці тая аслаўленая «славянская сварлівасьць» ня ёсьць чымсьці горшым, як сваркі і бойкі ў некаторых зах.-эўрапэйскіх парлямэнтах, але аб гэтых народах чамусьці ня кажуць, што яны сварлівыя. Справа ў тым, што ў характары беларуса, а часткава і ў іншых славян ёсьць істотная азнака: шчырасьць. Беларус калі любіць, дык усім сэрцам, а калі ненавідзіць, дык так-жа ўсімі сваімі сіламі; крывіць душою ён ня любіць. Дзеля гэта можа здарыцца, што не зважаючы на так мілае сэрцу жаданьне супакою, ён можа пасварыцца і нават пабіцца з некім нават дзеля малаважнае рэчы і зьнішчыць усе кладкі да пагадненьня. Толькі з дурнем ня хоча займацца: «Меўбы з дурнем ваяваць, лепей сваё даравацъ».

«Сварлівасьць» часта лагодзіць, а часта і зусім выпраўляе іншая ня зусім пахвальная ў сабе азнака беларускага характару: саламяны агонь. Праўда, дрэнна, што часта і ў грамадзкай працы дзеячы захопліваюцца толькі саламяным агнём. Калі аднак прыглянуцца ўважней да беларускага «саламянага агню», дык ён ня ёсьць вынікам слабасьці волі, але хутчэй вынікам празмернае шчырасьці, якая вядзе да фізычнага вычарпаньня так арганізму, як і пачуцьцяў, а тымсамым і да «загасаньня агню». Радаю на гэта магла-б быць разумная памяркоўнасьць.

Аднак гэтае зьявішча ня ёсьць між беларусаў агульным, а ў сьвеце чымсьці надзвычайным; наадварот, яно спатыкаецца між усіх народаў, як сангвінічны тып характару, між беларусаў-жа ёсьць паважны процант флегматыкаў. Аднак зразумела, што нават і невялікі процант непаседаў заўсёды хутчэй зьверне на сябе ўвагу якраз падчас свае рухавасьці.

Амаль усюды ведамае зьявішча, што людзі, якія калісь былі сабероўнымі, не шануюць тых, якія з іхняга асяродзьдзя выбіваюцца на вышэйшыя становішчы; у беларусаў у гэткіх абставінах непашана выяўляецца вельмі моцна і часта на дадатак да яе можа далучыцца заздрасьць з боку тых, якія так-жа маглі-б пайсьці ўпярод, але ня робяць гэтага з пасыўнасьці, або дзеля матэрыяльных пяжкасьцяў. Гэтая людзкая слабасьць існавала між людзьмі ад вякоў, бо-ж і Хрыстос казаў: «Няма прарока бяз чэсьці, акрамя толькі ў ягонай бацькаўшчыне» (Мат. XIII, 57). У гэтым сказе Хрыста побач дакору сьцьвярджаецца факт, з якім трэба лічыцца.

Усякія нястачы характару сваіх бліжніх, а нават і найвышэй пастаўленых людзей, беларус выказвае ў форме вельмі вострае насьмешкі, або сарказму. З гэтага гледзішча беларускія прыказкі зьяўляюцца адзінымі ў сваім родзе. Вось пару прыкладаў: «Грудзь калясом, а сэпель пад насом», «Адзін лапаць, другі бот, а я шляхціц далібог», «Ён за пяць грошаў вош да Смаленску пешкі пагоніць» (аб скнэры), «Не сабака брэша, а ты кажаш», «Ня даў Бог сьвіні рог, а то-б увесь сьвет перавярнула» і пад. Пры гэтай нагодзе варта зацеміць, што вострая насьмешка над дрэннымі азнакамі характару іншых, хоць і няпрыемная для тых, да каго адносіцца, ёсьць прыродным праявам крытыкі, а гэта характэрызуе беларуса,

як прыналежнага да заходня-эўрапэйскае культуры, бо на Усходзе крытыка здушана нават у думаньні.

Таму, што беларускае баярства вынарадавілася ў XVII і XVIII стаг., а сучасны беларускі народ складаецца пераважна з сялянства, якое доўгія вякі нясло на сабе цяжар паншчыны, скасаванае толькі 90 г. таму, дык ня дзіва, што яе ўплыў яшчэ сьледны на беларускім характары, як: нерашучасьць, жаданьне «ісьці сьледам за дзедам», «паглядзім, як іншыя», заблізкае знаёмства з карчмою і інш. Аднак усё гэта ёсьць часовым зьявішчам і ў нармальных умовах можа хутка зьнікнуць.

Вельмі характэрна, што не зважаючы на паншчыну і на доўгі безьдзяржаўны пэрыяд беларус не затраціў здаровага дзяржаўнага змыслу. Нават у абліччы жарстокіх імпэрыялістычных і тэрарыстычных наступаў розных акупантаў беларускі актыў змог разьвіць беларускі адраджэнскі рух да такое ступені, што з ім павінны лічыцца нават тыя, каму ён ёсьць косткай у горле.

Беларус гідзіцца паніжэньнем і ліслівасьцю з гэтае апошняе востра сьмяецца: «Лоб нізкі, нос сьлізкі, відаць, што лізаў панскія паўміскі».

Ад тых, якія выступаюць у ягоным імені, беларус хоча ведаць усё, што яны ў яго імені робяць. Дзеля гэтага ад няпамятных часоў у нас існавала веча, якое да апошніх дзён асталося ўсюды ў форме сходаў. Гэтую рысу беларускага характару мусяць мець на ўвеце і сучасныя грамадзкія дзеячы, бо да скрытых людзей ня толькі беларусы, але агулам на ўсім сьвеце адносяцца няпрыхільна. Зрэштаю інфармацыя аб сваёй дзейнасьці можа быць і выявам даверу і сродкам навязаньня прыязьні.

Пашана да старых традыцыяў у беларуса ўкарэнена вельмі глыбока. Прыказка аб гэтым кажа: «Хай лепш згіне ўся вёска, чым старыя абычаі», а гісторыя сьведчыць, што калісь нават вялікія князі, бяручы пад сваю ўладу паасобныя беларускія княствы, мусілі забавязвацца: «навінаў ня ўводзіць і старыны не парушаць». Аб гэтым варта ведаць асабліва тым дзеячом, якія маюць вельмі моцныя рэфарматарскія жаданьні. Нават эміграцыйная практыка паказала, паколькі розныя «рэформы» ёсьць пэўным шляхам да кампраміітацыі іхных ініцыятараў.

Беларус не сьпяшаецца з выказваньнем сваіх думак перад мала знаёмымі — гэта вынік доўгавяковага досьледу, дзякуючы якому беларус змог захаваць сваю самабытнасьць і ня ўпасьці ў розныя пасткі акупантаў. Затое мае патрэбу выгаварыцца ў такім кругу людзей, дзе не пагражае адказнасьць за вастрэйшае слова. Звычайна на вёсцы даюць волю языком на пасядзеніках; нешта падобнае бачым у заходня-эўрапэйскіх клюбах. Кожны чалавек сябе лепш пачувае ў шчырым таварыстве, тымбольш беларус, у якога шчырасьць належыць да істотных азнакаў характару.

Аўтарытэтаў беларус слухае пастолькі, паколькі яны заслугоўваюць на послух. Даўней былі выпадкі, што веча нават князю «паказвала пуць», калі не магло з ім дайсьці да згоды.

Беларус ня любіць хваліцца і выстаўляцца, больш ахвотна ён называе сябе простым чалавекам і ня любіць тых пыхцікаў, якія самі сябе хваляць, кажучы аб іх: «Хто сам сябе хваліць, хай таго пярун спаліць». Зрэштаю, гэткаю ёсьць ня толькі думка беларусаў, але і ў сьв. Пісаньні гаворыцца: «Гордым Бог працівіцца, а пакорным дае ласку» (Якаў, IV, 6). У самай ацэнцы прастаты і пакоры ў беларусаў выступаюць два розныя матывы: адзін карысны, ён кажа: «Пакорнае цялятка дзьве маткі сьсе», а другі цэніць прастату, як цноту, бо: «У простых сэрцах Бог спачывае», «Прастата сьвятая, яе-ж і на зубы падымаюць».

Беларус любіць, калі нават высокапастаўленыя асобы маюць тую сьвятую прастату і ўмеюць зьнізіцца да масаў, знайсьці з імі супольную мову. Сялянства па гэтым ацэньвае сапраўдную веліч чалавека, кажучы: «Той сапраўды вялікі чалавек, што з вучонымі вучоны, а з мужыкамі мужык». Гэтае адказвае эвангельскаму ідэалу, бо, напр., апостал Павал казаў аб сабе: «Для ўсіх я стаўся ўсім, каб усіх збавіць» (І Кар. IX, 22).

Так злажылася беларуская гісторыя, што вернымі беларускай традыцыі асталіся пераважна сяляне, дзеля гэтага і любоў да замлі, да свае нівы, ёсьць амаль агульнаю беларускаю азнакаю.

Прывязанасьць да ўласнасьці ёсьць агульналюдзкаю азнакаю, у беларуса яна прымае яшчэ тую ахварбоўкі, што аб чым ён ня можа сказаць: «гэта маё», хоць часткава, тое для яго не заслугоўвае на большую пашану: «Ох, Божа мой, хоць харошы, да ня мой!», «Чужыя хвалячы замкі, ня гань свае клямкі», «Хто чужое шануе, той свайго ня мае».

У выніку гаспадараваньня акупацыйных уладаў беларускі народ вельмі абяднеў, але ў натуры беларуса асталося незрабаваным вялікае багацьце: працавітасьць. Працуе беларус з сэрцам; і пяскі, і багны стаюцца ўраджайнымі пад націскам яго крывавага мазаля.

У зьвязку з працавітасьцю ў беларуса вытварыўся давер да ўчынкаў, а недавер да слоў. Гэтая канкрэтнасьць можа нават некаму выдавацца празмернай, аднак ёсьць факт, што «белрус не памацаўшы, не паверыць», і нават памацаць мусіць ня раз, а некалькі разоў.

Свой жыцьцёвы досьлед беларус выказвае ня проста, але ў вобразнай форме, найчасьцей, як прыказкі, у якіх словы часта маюць пераноснае значэньне.

Падаючы гэтых некалькі азнакаў беларускага характару і не займаючыся іхняй аналізай, трэ-

ба адразу засьцерагчыся, што іх нельга ўагульніваць, бо як адменнае аблічча аднаго чалавека ад другога, так адменныя іхныя характары. Ды гэтыя ўвагі вельмі няпоўныя, бо падаць поўны абраз псыхікі беларуса ў часапісным артыкуле немагчыма. Мэтаю гэтага артыкулу ёсьць збудзіць у чытача зацікаўленьне парушанаю тэмаю.

Калі-б у нашых грамадзкіх і прыватных дачыненьнях зьвярталася больш увагі на псыхіку чалавека агулам, а беларуса ў асаблівасьці, дык няма сумніву, што гэта сталася-б паважным кансалідацыйным дзейнікам.

Як сьвет сьветам, а людзі людзьмі здараліся і ў сям'і, і ў грамадзе розныя церці і непаразуменьні. «Нават гаршчок з гаршком цернецца, ня то каб чалавек з чалавекам не пасварыўся», кажа народная мудрасьць. Калі аднак мы ведаем нашы слабыя мейсцы і нястачы характару іншых, тады лягчэй зьменшыць і колькасьць і якасьць непаразуменьняў. Але да гэтага патрэбна сьведамая праца ў кірунку грамадзкага выпрацаваньня. Яе перадумоваю ёсьць вышэй успомненае пазнаньне сябе і сваіх бліжніх, а накіравана яно мусіць быць да канкрэтнае мэты: каб мне было добра з іншымі, а іншым — добра са мною.

Калісь на Беларусі сяляне часта паказвалі, як на прыклад грамадзкае салідарнасьці жыдоўскі кагал. Ня ідэальны гэта прыклад, але часам прыкладам можа быць. Трэба аднак ведаць, што салідарнасьць кагалаў была вынікам доўгага і пляновага выпрацаваньня, якое знайшло свой выяў у малітве рабіна перад Судным Днём, якая пачыналася словамі: «Усявышні Божа, хай ня будзе майму народу сорамна за мяне і няхай мне ня будзе сорамна за мой народ».

Мы, хрысьціяне, адносна дачыненьняў да нашых бліжніх, маем у навуцы Хрыста шмат лепшых і яснейшых прыкладаў, чым у кагалах. Сьв. Эвангельле мае поўна прыгожых і лёгкавыканальных радаў у справе ўзаемаадносінаў і ўзаемнага пазнаньня, незраўнаных паводля свае яснасьці і канкрэтнасьці, трэба іх толькі лепш пазнаць і ўспрыняць. Вось адна з гэткіх радаў: «Ня судзеце, каб вас ня судзілі. Бо, якім судом судзіце, такім і вас асудзяць; і якою мераю мераеце, гэткаю і вам адмерыцца. І што ты глядзіш на сучок у воку брата твайго, а палена ў сваім воку ня бачыш» (Мат. VII, 1-3).

Калі-б гэтыя сьвятыя словы былі выпісаны ня толькі на паперы, але глыбока ў нашых сэрцах і кіравалі нашымі думкамі і дзеяньнем, дык бязумоўна наш цяжкі асабісты і народны жыцьцёвы крыж, быў-бы менш даймаючым.

**а. Леў.**

# Што дало Беларусі хрысьціянства?

Памінаючы гістарычнае пытаньне: калі і як зьявілася хрысьціянства на Беларусі, тут хочам зьвярнуць увагу толькі на тое, што дало хрысьціянства беларускаму народу.

Для яснасьці самае тэмы прыпомнім толькі факт, што хрысьціянства зьявілася на Беларусі зусім пэўна ўканцы дзесятага стагодзьдзя, значыць больш як на паўвеку перад падзелам Царкоў. Вось-жа хрысьціянства прыйшло на Беларусь у сваёй непадзельнай форме, як Праваслаўна-Каталіцкая Царква; у гэтай форме яно трапіла на ўраджайную глебу беларускае душы і ўжо ў XII в. прынесла прыгожыя кветкі: вялікіх беларускіх сьвятых, а тым самым і на грамадзкае жыцьцё яно мусіла мець паважны ўплыў.

Можна шмат гаварыць аб тым, якія багацьці прынесла нашаму народу хрысьціянства, але для яснасьці самае справы лепш будзе абмежавацца да кароткага пералічэньня гэтага багацьця, а што да самае ацэны, дык няхай кожны чытач зробіць гэта сам.

1. Найважнейшы скарб, які прынесла з сабою хрысьціянства на Беларусь ёсьць аб'яўленае слова Божае, гэта ёсьць эвангельская навука і ўсе скарбы сьв. Пісаньня і сьв. Традыцыі, а разам з гэтым хрысьціянская мараль і хрысьціянская філязофія, — якія пачалі паволі пранікаць у сьветагляд беларуса і ў ягонае практычнае жыцьцё.

2. Разам з хрысьціянствам прыйшла асьвета. Закладаюцца першыя школы для ўзгадаваньня кадраў духавенства, а разам з тым і агулам для шырэньня асьветы. Зьяўляюцца кнігі, перапісчыкі кнігаў, а ўсьлед за імі і арыгінальныя беларускія пісьменьнікі, перш духоўныя, а потым і сьвецкія.

3. Арганізуючы парахвіі, хрысьціянства дае штуршок для арганізацыйнага жыцьця. Каля царквы арганізуюцца брацтвы, ды іншыя ўстановы.

4. Kананічнае царкоўнае права, якое йдзе да нас і з Візантыі, і з Нямеччыны, мае вялікі ўплыў на кодыфікацыю беларускага права, якое знайшло свой прыгожы выяў у Літоўскім Статуце.

5. Няма сумніву, што мастацтва існавала на Беларусі і да хрысьціянства, але з прыходам хрысьціянства, яно атрымала новую невычарпальную крыніцу для разьвіцьця і ўзбагачаньня свае тэматыкі. І так: малярства атрымала новую галіну свайго разьвіцьця — іконаграфію, орнамэнтыку рэлігійнага зьместу, мініяцюры, фрэскавае мастацтва і мазаіку; музыка ўзбагацілася рэлігійнымі мэлёдыямі на візантыйскіх і рымскіх асновах; разьвіваецца ювэлірнае мастацтва.

6. Будаўніцтва даўней на Беларусі было пераважна дзеравяннае, хрысьціянства прычыняецца да паўстаньня і разьвіцьця мураванага будаўніцтва. Беларускія дойліды ня толькі бяруць прыклад з візантыйскіх сьвятыняў, але і самі вытвараюць беларускі будаўнічы стыль, як аб гэтым сьведчаць: слаўная царква сьв. Спаса каля Полацку і Каложская царква ў Горадні.

7. Важней як матэрыяльнае будаўніцтва ёсьць будаўніцтва духовае; хрысьціянства дало Беларусі вялікіх сьвятых. Да сёньняшняга дня іх нарахоўваецца ў нас толькі 25 чалавек з розных пластоў грамадзянства: князёў, ваякаў, сялянаў, манахаў, манахіняў і сьвятароў — але трэба сабе шчыра сказаць, што гэта толькі частка тых сьветлых постацяў, перад якімі нават варожыя для Беларусі ўлады мусілі схіліць свае галавы. Нам самым варта пазнаць лепш сваіх сьвятых і папулярызаваць іхны культ.

8. Хрысьціянства адчыніла для Беларусі дзьверы да скарбаў культуры Захаду і Усходу. Ведама, што народ, які замыкаецца ў сабе і заўсёды варыцца ў сваім сосе, хутка даходзіць да ўпадку. Для духовага разьвіцьця неабходна вымена думак, бо думка запладняе думку, і хрысьціянства дало неабмежаваныя магчымасьці ў гэтым кірунку.

9. Маючы адну літургічную мову, хрысьціянства тым самым спрыяла вытварэньню аднае літаратурнае мовы і прычынялася да аб'еднаньня беларускіх пляменьняў у адзін народ.

10. Тая палеміка і барацьба, якая была запачаткавана ўканцы XVI в. і разгарэлася ў XVII в у зьвязку з каталіцтвам усходняга абраду на Беларусі, некаторымі гісторыкамі ацэньваецца толькі, як адмоўнае зьявішча. Вось-жа трэба сабе ўсьведаміць, што ў сапраўднасьці тагачасныя рэлігійныя спрэчкі прычыніліся да пабуджэньня і паглыбленьня беларускае нацыянальнае сьведамасьці, да ўзбагачаньня пісьменства. Дзеля гэтага падчас скасаваньня Уніі ўсякія спрэчкі былі якнайбольш жарстока забаронены.

11. Бясспрэчна, што каталіцтва з сваею здысцыплінаванасьцю ўносіць вельмі карысны дзейнік у беларускую псыхіку.

12. Трэба выразна разрозьніць палітыку ерархаў чужынцоў у часе паняволеньня Беларусі ад дзейнасьці Каталіцкае Царквы, як такое. Не зважаючы на ніякі чужацкі ўплыў, ніжэйшае каталіцкае духавенства даўней было амаль выключна беларускае і падтрымоўвала беларускую нацыянальную сьведамасьць. Уніяцкае беларускае духавенства ўвесь час карысталася ў казаньнях і катэхізацыі беларускаю моваю і толькі пасьля скасаваньня Уніі забаронена гаварыць казаньні пабеларуску ў 1840 г. Рыма-каталіцкае духавенства на Беларусі паколькі было беларускага паходжаньня шмат дзейнічала для ўмацаваньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці, прыкладам гэтага можа быць школа а. Магнушэўскага ў Крошыне, з якое выйшаў першы беларускі сялянскі паэт Паўлюк Бахрым. Калі мала ёсьць падобных постацяў, дык трэба не забывацца, што найбольш стойкія барацьбіты гінулі ў далёкай чужыне на засланьні, напр., а. Язэп Анчэўскі памёр аж у Суздалі 1877 г., прасядзеўшы аж 32 гады ў строгім запярці і толькі адзін Бог ведае, колькі падобных мучанікаў аддало жыцьцё за Божую і народную справу.

13. Пачаткі беларускага адраджэнскага руху зьявіліся ў каталіцкім асяродзьдзі: Каліноўскі, Баршчэўскі, Чачот, Дунін-Марцінкевіч, праф. Эпімах-Шыпілла і бацька беларускага адраджэньня Фр. Багушэвіч — усё гэта дзеячы ўзгадаваныя Каталіцкаю Царквою, не ўспамінаючы ўжо каталіцкага духавенства, якое актыўна ўдзельнічала ў гэтым руху. Паясьніць гэты факт можна тым, што Каталіцкая Царква прышчэплівае сваім вернікам глыбокі ідэалізм і ахвярнасьць.

14. Каталіцтва на Беларусі ўплывала так-жа і на Праваслаўе, якое на нашай бацькаўшчыне шмат у чым розьніцца ад расейскага Праваслаўя. Акрамя абрадовых розьніцаў, яно на Беларусі ня мае ані цэзаропапізму, ані крайняе пасыўнасьці.

15. Калі ў новых і навейшых часох Усход перастаў быць культурным цэнтрам, а такім цэнтрам стаўся Захад, дзе як-ні-як каталіцызм ёсьць аднаю з найбольш жывучых рэлігіяў, дык лучнасьць з гэтым Захадам дапамагала і дапамагае беларускаму народу заняць сваё мейсца ў сям'і перадавых культурных народаў.

16. Насупраць усім варожым перашкодам кадры сьведамага беларускага каталіцкага духавенства ўзрасталі штораз больш. Калі на пачатку XX стаг. вялі беларускую рэлігійную адраджэнскую працу толькі адзінкі, як: кс. кс. Лісоўскі, Будзька, Астрамовіч, дык ужо ў часе першае сусьветнае вайны іхныя рады папоўніліся дзясяткамі маладых актыўных беларускіх духоўных, якія былі на такім высокім духовым і культурным узроўні, што нават у часе наступу польскага нацыяналізму на беларускі каталіцызм, Апостальскі Пасад даручае адну з місіяў для эміграцыі ў Кітаі беларускім сьвятаром.

17. Ужо ў часе першае сусьветнае вайны беларускі каталіцкі рух быў натолькі ўзмогся, што з ім мусілі паважна рахавацца нават вышэйшыя ерархі-небеларусы. У 1917 г. 24-25 траўня адбыўся першы зьезд беларускага каталіцкага духавенства ў Менску, які сфармулаваў беларускія дамаганьні адносна ўвядзеньня беларускае мовы ў касьцельнае жыцьцё і гэтыя дамаганьні тагачасны віленскі біск. Ропп афіцыяльна зацьвердзіў, загадваючы асобным цыркулярам падуладным сабе духоўным, карыстацца беларускаю моваю ў казаньнях і навучаньні рэлігіі ў парахвіях з беларускім насельніцтвам.

Потым польскі ўрад пастараўся абсадзіць віленскую мітраполію такім беларусаненавісьнікам, як міт. Ялбжыкоўскі, які ў 1925 г. скасаваў цыркуляры біск. Роппа. Аднак раз кіненае зерне, хоць і было моцна прыглушана польскаю ўладаю, не паддалося поўнаму зьнішчэньню.

18. Не-ад-рэчы будзе ўспомніць, кто беларуская рэлігійная літаратура ад часу адраджэньня заўдзячвае сваё існаваньне амаль выключна дзейнасьці беларускага каталіцкага духавенства. Ад 1926 г. у Вільні існавала Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, ягоныя выданьні станавілі амаль 80 проц. усяе беларускае тагачаснае рэлігійнае літаратуры. Падобнае зьявішча можна бачыць і на эміграцыі: да гэтага часу паказалася на эміграцыі 12 назоваў беларускіх рэлігійных часапісаў, але толькі 71 экзэмпл.. З іх 47 каталіцкіх (66,5 проц.), 20 праваслаўных (27 проц.), і 4 сэктанцкіх (5,5 проц.).

19. Аб тым, як сапраўды каталіцызм шырока адчыняе дзьверы для беларускага народу ў міжнародным жыцьці могуць сьведчыць сучасныя эміграцыйныя адносіны. Не зважаючы на сваю невялікаю колькасьць, беларусы каталікі зьяўляюцца роўнапраўнымі сябрамі ўва ўсіх міжнародных каталіцкіх пачынаньнях і арганізацыях. Беларускія Каталіцкія Місіі ў Парыжу і Лёндане аснованы тады, калі яшчэ ўрадам гэтых дзяржаваў трэба было шмат даказваць аб існаваньні беларускае нацыі. Ватыканская радыёстанцыя першая ўключыла беларускія перадачы ў сваю праграму.

20. Не беспадстаўна і ня дзеля нейкіх часовых меркаваньняў, але зусім згодна з сваім гістарычным і культурным шляхам, самыя-ж беларусы залічаюць сябе да народаў Захаду.

Гэтае кароткае і сухое пералічэньне фактаў ня мае на мэце некаму накінуцца. Наадварот сучасны каталіцызм нават і ў сваёй місійнай працы моцна падчырквае пашану свабоднае волі кожнага чалавека, бо яна дана чалавеку самым Богам. Мэтаю гэтага артыкулу ёсьць даць вернікам магчымасьць пазнаць, дзеля чаго сучасны бальшавізм востра выступае супраць хрысьціянства агулам і асабліва супраць каталіцызму. Як бачым з вышэй пералічаных фактаў, каталіцызм вельмі ўспамагае і ўзмацняе нацыянальны рух нават і паняволеных народаў, бальшавізм-жа наадварот прыгнобліваe ўсякі праяў нацыянальнае сьведамасьці так у агульнаграмадзкім, як і ў рэлігійным жыцьці. Наступ на Каталіцкую Царкву цяпер вядзецца з усіх бакоў і ў аблічны гэтае небясьпекі нашым сьвятым абавязкам ёсьць стаць на абарону Каталіцкае Царквы, бо ў залежнасьці ад таго, які будзе канец сучасных варожых нападаў на каталіцызм, злежыць і будучыня беларускага народу.

**а. Л. Гарошка.**

# Кіеўская Мітраполія ў другой палавіне XVIII стаг.

(Працяг 3)

**Полацкая Архіепархія.**

Старадаўны беларускі горад Полацк заснаваўся перад IX стаг., а біскупскім пасадам стаўся ён у пачатку XII стаг., а магчыма што шмат раней. Летапісы першы раз успамінаюць аб Полацку ў 862 г., а аб Полацкім біскупу ў 1105 г. (1), аднак ведамыя вучоныя, як праф. Голубінскій (2) і Сапуноў (3) пачатак Полацкай епархіі адносяць да часоў сьв. Уладзімера (прыблізна каля 992 г.) толькі што ня ведамыя першыя Полацкія ерархі аж да 1105 г., гэта значыць да часу высьвячэньня яп. Міны.

Шмат прычын склалася на тое, што Полацк стаўся слаўным беларускім горадам. У першую чаргу ўславілі яго вялікія беларускія дзеячы і сьвятыя, якія або вышлі з Полацку, або там жылі і дзейнічалі. Гэткімі былі: Рагнеда, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей, Лазар Богша, дойлід Іван, сьв. Прадслава-Еўфрасіня, сьв. Параскева Полацкая, др. Францішак Скарына, Сымон Полацкі, сьв. Ёсафат Кунцэвіч і інш.

Праз доўгі час полацкія ўладыкі стаялі ў радох царкоўнае ерархіі, як біскупы. У 1511 г. Еўфімі (1504-1512) першы стаў ужываць тытул архібіскупа. Перад гэтым яшчэ біскуп Калліст II (1458-1459), а за ім ягоныя наступнікі пачалі тытулавацца біскупамі Полацкімі і Віцебскімі, потым дадалі яшчэ іншыя тытулы (4). У XVII стаг. полацкія каталіцкія ерархі тытулуюцца: біскупам Полацкім, Віцебскім, Мсьціслаўскім, Аршанскім і Магілёўскім. Дзеля таго, што ў Полацкай архіепархіі праз увес час існаваньня Уніі знайходзілася нейкая колькасьць праваслаўных са сваей вышэйшай ерархіяй, ужываньне уніяцкімі ўладыкамі ў сваіх тытулах вышэй успомненых гарадоў мела сваё значэньне. І так мы бачым, калі адбы-

1. Полное Собраніе Русскихъ Лѣтописей, I, с. 119, 128.
2. Голубинскій — Исторія Русской Церкви, С.-Петербургъ, 1868, Т. II, с. 22. увага 45, так-жа т. I, увага 75.
3. Сапуновъ — Историческія судьбы Полоцкой Епархіи, Витебскъ, 1898, 141.
4. Сапуновъ — Цытав. твор, с. 145-148.

ваўся кананічны допыт пры назначэньні Язона Юнашы Смагажэўскага на суфрагана біск. Фл. Грэбніцкаму і калі ў дакумантах канцэлярыі польскага караля ў тытуле Полацкага архібіскупа было прапушчана «Магілёўскі», дык была выслана рэклямацыя ў Варшаву, каб гэны пропуск паправіць (5).

У часе абвешчаньня Уніі ў Берасьці (1596) Полацкая Архіепархія займала абшар трох ваяводзтваў: Полацкага, Віцебскага, Мсьціслаўскага і часткова Лівонскага. У гэткай расьцягласьці яна існавала да 1772 г., калі большая яе частка апынулася пад Расеяй.

У 1772-1793 гадох дзяржаўна-адміністрацыйны лад на Беларусі зьмяняўся аж тры разы (6). У 1772 г. мейсца ўспомненых вышэй ваяводзтваў занялі дзьве губэрні: Пскоўская і Магілёўская, дзелячыся ў сваю чаргу на 9 т. зв. уездаў (паветаў). На чале губэрніяў стаялі губэрнатары, каторыя зьяўляліся падуладнымі найвышэйшага імпэратарскага намесьніка Беларусі Рыгора Чарнышэва. Такі парадак трываў нядоўга, бо толькі да 1776 г., калі на прапанову таго-ж графа Чарнышэва былі створаны губэрні: Полацкая і Магілёўская. Пасьля другога і трэцяга падзелу Рэчыпаспалітае ўся Беларусь, за выняткам Берасьцейшчыны, была падзелена на 6 губэрняў: Смаленскую, Магілёўскую, Менскую, Віленскую, Гарадзенскую і Віцебскую.

Полацкая Архіепархія была адною з першых ў радзе епархіяў Кіеўскае Мітраполіі. Пяршынство ёй слушна належалася дзеля шматлікіх прычын: была яна адною з найстарэйшых, найбольшая абшарам і лікам вернікаў. Нічога так-жа дзіўнага, што быў час, калі беларусы уніяты трымалі стырно ў кіраваньні Уніяцкае Царквы на Беларусі і Украіне, а бальшыня Кіеўскіх Мітрапалітаў выбіралася сярод Полацкіх біскупаў.

Адзін з малодшых украінскіх гісторыкаў а. др. Прашко ў сваёй мала ведамай для беларусаў дакторскай працы, гаворачы аб стане Каталіцкай Царквы ўсх. абраду ў палавіне XVII стаг. даслоўна піша: «У тым часе ўва Усходняй Каталіцкай Царкве (Кіеўскай Мітраполіі), мелі верх беларусы і цэнтрам лічыўся горад Менск, або Жыровіцкі манастыр. Таму ў XVII стагодзьдзі ў Менску і ў успомненым манастыры адбываласся шмат зьездаў айцоў Базыльянаў і іншых кангрэсаў уніяцкае ерархіі, таму так-жа ў Менску, а ня ў іншых гарадох уніяты залажылі сваю сэмінарыю» (7).

У XVIII стаг., асабліва пры яго канцы, калі ўся Беларусь апынулася пад Расеяй, сытуацыя зьмянілася радыкальна: Унія на Беларусі сыстэматычна нішчыцца, а на Украіне пад Аўстрыяй, яна ня толькі захоўвалася, але яшчэ ўзмацнялася.

Аб рэлігійным стане на Беларусі пры канцы XVIII стаг. шмат нам гавораць сьпіскі парахвіяў, якія захаваліся дагэтуль у Ватыканскіх архівах. Датычна Полацкае Архіепархіі, дык са сьпіску з 1772 г. выяўляюцца наступныя даныя: у 1772 г. яна налічвала 596 уніяцкіх парахвіяў злучаных у 27 дэканатаў. Пасьля першага падзелу Рэчыпаспалітае ў межах гэтай апошняй асталося толькі 130 парахвіяў аб'еднаных у 7 дэканатаў. Дэканаты Гомельскі і Рагачоўскі, якія належалі да Мітрапалітальнае епархіі, пасьля 1772 г. былі ўзяты пад апеку архібіскупам Полацкім, а пасьля сьмерці архібіскупа Смаленскага Лэпкоўскага ў 1778 г. усе уніяцкія парахвіі Смаленскае епархіі перайшлі пад юрысдыкцыю тагачаснага Полацкага архібіскупа Язона Юнашы Смагажэўскага. Такім чынам усіх вернікаў беларусаў каталікоў усх. абраду ў Полацкай Архіепархіі налічвалася каля мільёна. У той час каталікоў лацінскага абраду на Беларусі ў межах расейскае імпэрыі налічвалася да 100.000, а праваслаўных да 300.000 (8). Нельга прысягаць за праўдзівасьць гэтых статыстычных даных, аднак няма сумніву, што яны ў 90% адказваюць праўдзе і гавораць самі за сябе ня толькі аб рэлігійных адносінах на Беларусі ў XVIII стаг., але агулам у справе беларускае дэмаграфіі, каторая аднак не ўвайходзіць у абсяг закранёнае тут тэмы.

Для нашае царкоўнае гісторыі ёсьць вельмі вартасны сьпісак парахвіяльных цэркваў і дэканатаў Полацкае Архіепархіі зроблены архіб. Яз. Юн. Смагажэўскім 17.X.1772 г., значыць зразу пасьля падзелу Рэчыпаспалітае і таму ў ім пералічана толькі 465 парахвіяў, вось-жа бяз тых 130, якія асталіся ў Рэчыпаспалітай. Пэўна-ж было-б цікава падаць тут увесь гэны сьпісак, бо ён паўнейшы з усіх беларускіх епархіяў, але таму, што гэта заняло-б амаль паўчасапісу, абмяжуемся толькі да сьпіску дэканатаў (9):

1. Дэканат Полацкі — 27 цэркваў; 2. Дэканат Вяліжскі — 18; 3. Дэканат Сябежскі — 24; 4. Дэканат Асьвейскі — 19; 5. Дэканат Бешанковіцкі — 27; 6. Дэканат Віцебскі — 17; 7. Дэканат Веляшкоўскі — 17; 8. Дэканат Городзецкі — 17; 9. Дэканат Мсьціслаўскі — 25; 10. Дэканат Засожанскі — 38; 11. Дэканат Гарэчынскі — 23; 12. Дэканат Заполянскі — 41; 13. Дэканат Талочынскі — 20; 14. Дэканат Мігулінскі — 23; 15. Дэканат Смалянскі — 30; 16. Дэканат Белічынскі — 19; 17. Дэканат Дуброўскі — 17; 18. Дэ-

5. Ліст Я. Ю. Смагажэўскага да Апост. Нунцыя Віsконті з дня 23 кастр. 1762 г.; **Vatykanski Archiu, Nunz. di Vars., t. 41, f. 53 v.**

6. Гл. арт. Хв. Ільяшэвіча ў Гадавіку Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, 1933, кн. I, с. 54-56.

7. **Praszko — De Ecclesia Ruthena Catholica, Romae 1944, 11.**

8. **Loret — Kościoł Katolicki a Katarzyna II, Warszawa 1910, 200-201; Lehtone — Die Polnischen Prowinzen Russlands, Berlin 1907, 561.**

9. **Vatykanski Archiu, Nunz. di Vars., t. 141, f. 2.—3 v.**

канат Быхаўскі — 20; 19. Дэканат Цяцерынскі — 19; 20. Дэканат Галаўчынскі — 22. Разам — 465 цэркваў.

Адначасна са сьпіскам архіб. Язон Юноша Смагажэўскі таго самага дня 17 кастрычніка 1772 г. выслаў суправаджальны ліст да Апостальскага Нунцыя ў Варшаве Вісконті, такога зьместу:

«Эксцэленцыя,

Каб лепш абясьпечыць справу тутэйшага каталіцва праз некалькі дзён я павінен быць у сталіцы Расейскае імпэрыі, спадзяючыся, пры нябеснай помачы, зьяднаць ласкавасьць Імпэратрыцы на карысьць у будучыні для гэтае каталіцкае аўчарні. Пры гэтым я не магу думаць, што падобны плян можа некаму выдавацца не на мейсцы ў той час, калі ён адказвае справядлівасьці і правілам ветлівасьці, а нават гэтага вымагае абавязак падуладнасьці і ня мае н мэце нічога іншага, як толькі захаваць каталіцкую рэлігію. Я быў-бы шчасьлівым, калі-б знайшоў там зьдзейсьненьне сугэстыяў Вашае Эксцэленцыі, для якое тымчасам высылаю залучаныя тут рэгістры цэркваў, што asталіся пад маёю пастырскай апекай, хаця яны і перайшлі пад новую ўладу. Можа стацца, што пры канчатковым урэгуляваньні граніц, астанецца якаясьці парахвія ў Рэчыпаспалітай і ў такім выпадку я нейкім знакам хутка выяўлю гэта для Вашае Эксцэленцыі.

Рыхтуюся да вырашаючага падарожжа і з поўнай пашанай астаюся аддданы, удзячны і пакорны слуга Вашае Эксцэленцы.

**Язон Юнаша Смагажэўскі**
**Архібіскуп Полацкі.**

Полацк, 17 кастрычніка 1772.

**а. Ч. Сіповіч.**

(Далей будзе)

# Супэратомная бомба

Усяго некалькі гадоў таму людзі навучыліся вырабляць атомныя бомбы і аб іх ужо ведае ўсё чалавецтва і мае страх перад імі, бо іхняя разбуральная сіла неймаверна жахлівая. Крыніцаю энэргіі атомнае бомбы ёсьць тая сіла, якая зьвязвае электроны, іёны і пратоны ў адзін атом.

Калі такая моцная сіла захаваная ў атоме, дык якая мусіць быць тая сіла, якая знайходзіцца паза атомам, але якая накіравала сваю энэргію на тварэньне атомаў?! Фізыкі адмаўляюцца шукаць яе хэмікі — ня маюць магчымасьці, а іншыя прыродазнаўчыя навукоўцы адказваюць, што гэта не належыць да абсягу іхных досьледаў. Аднак знайсьці тую сілу вельмі важна, бо калі такая магутная энэргія знайходзіцца ў атоме, дык якая-ж мусіць быць энэргія ў той крыніцы, адкуль гэтая энэргія пералілася ў атом?! І якая аграмадная тая сіла, якая змусіла яе пераліцца?!!

Адказ на гэтыя пытаньні сапраўды не належыць да абсягу прыродазнаўчых навук, але затое ёсьць іншыя навукі як: філязофія і багасловія, якія ўжо даўно адказалі на вышэйпастаўленыя пытаньні. Гэтыя навукі кажуць, што першапачаткаваю крыніцаю ўсяе энэргіі, якая існуе на сьвеце, а тымсамым і ў атоме, ёсьць усемагутны Бог, а сілаю, якая выклікала тварэньне атомаў ёсьць бесканечная Божая любоў.

Дык гэта Божая любоў ёсьць тою сілаю, якая валадарыць над усім атомным сьветам і тым самым яна ёсьць супэрсілаю. У адрозьненьне аднак ад атомнае сілы яна ёсьць будуючаю, творчаю сілаю. Значыць, калі з яе стварыць «бомбу», дык гэта будзе наймагутнейшая ў сьвеце супэратомная бомба. Яна аднак будзе істотна розная ад атомнае бомбы, бо калі атомная, а яшчэ горш вадародная бомба пагражае сьвету зьнішчэньнем, дык супэратомная бомба, ці інакш кажучы бомба любові ёсьць збаўленьнем для сьвету. Але ці магчыма яе вытварыць? Так! Ужо Ісус Хрыстос яе кінуў на зямлю; разарвалася яна на Галгофце, разьдзерла занавесу Старога Запавету і дала пачатак Новаму Запавету, Запавету Любові.

Для вырабленьня атомнае бомбы будуюцца аграмадныя фабрыкі, трацяцца неймаверна вялікія сумы грошаў, а для вытварэньня бомбы любові выстарчае маленькая фабрыка — людзкое сэрца, якое шчыра прымае і практыкуе хрысьціянскую любоў бліжняга.

Для вытварэньня атомнае бомбы патрэбны да-




**Добрыя ўчынкі для душы і для цела бліжняга**

рагія рэчавіны, як ураній, цяжкая вада і інш.; для бомбы любові выстарчае шчырае прыняцьце навукі Хрыста.

Для перавозу атомнае бомбы патрэбны адумысловыя дарагія самалёты і вымуштраваныя лётнікі; для бомбы любові выстарчаюць людзкія вусны і рукі.

На самую думку аб магчымасьці выбуху атомнае бомбы людзі калоцяцца са страху, а падчас самога выбуху дрыжыць зямля, зрошаная морам людзкое крыві; ад бомбы любові суцішаецца боль, гояцца раны душы, радуецца людзкое сэрца.

Атомная бомба ў часе выбуху вытварае такую высокую тэмпэратуру, што паліць і нішчыць усё жывое далёка навокал мейсца выбуху; бомба любові рыхтуе брацкія абыймы для душы і цела бліжняга і можа зьмякчыць нават закамянелыя сэрцы людзей.

Калі бомбамі любові пачнуць ваяваць між сабою паасобныя людзі і цэлыя народы, тады самі сабою зробяцца непатрэбнымі бесканечныя і двудушныя «канфэрэнцыі аб міру» і атомныя бомбы.

**Т. Малько.**

# Абышлося бяз цуда

Людзі любяць розныя надзвычайныя гісторыі, розныя сэнсацыі, але каля сапраўдных надзвычайных зьявішчаў часта прайходзяць зусім абыякава і не заўважваюць іх.

Каб ня быць галаслоўным, тут раскажу адну падзею, якая некалькі гадоў таму сталася ў адной шэрай беларускай вёсцы ў Стаўпеччыне і аб якой ня толькі што ніводная газэта не заікнулася, але нават цяпер можа і ў самой вёсцы тая падзея пайшла ў няпамяць.

Можа так і лепш, бо сапраўдныя цуды дзеюцца не дзеля заспакаеньня пустое людзкое цікавасьці, але для дабра душы чалавека.

У вёсцы, аб якой хочу гаварыць, усе ведалі, што Андрэй — чалавек гаспадарны і талковы, старыя ягоныя бацькі былі вельмі чэсныя і руплівыя. Затое сын Андрэя, Клім, быў такім ветрагонам, непаседаю і шаляніцаю, якіх рэдка дзе стрэнеш.

Аднаго году Андрэю добра зарадзіла ніва і ён увосень папрасіў свайго багацейшага дзядзьку, каб пазычыў яму малатарню, хутчэй змалаціць Божы дар. Той паслухаўся, і нават сам прышоў памагчы Андрэю.

Раніцаю загула ў гумне малатарня, сыпнулі з яе, як з процы, на ток залалістыя зярняты пшаніцы і зарадавалася Андрэява гаспадарскае сэрца, гледзячы, як увіхаліся каля малатарні яго працавітыя сямейнікі і памагатыя.

Роўны гул малатарні час-ад-часу пранізваўся мацнейшым злосным зыкам, гэта нераскручанае перавясла пралятала праз зубасты барабан. Усё йшло спрўна, аж раптам...

— А-й-ё-ё-й!!! — разьдзіраючы душу крык перабіў нават зойк малатарні. Зраўнаважаны майстар, які падаваў у малатарню, ўхапіў цэлы сноп і кінуў яго ў горла малатарні. Раптам усё спынілася і ўсе кінуліся з гумна да прыводу, адкуль даходзіў крык. Там ля прыводу пад дышлем ляжаў Клім, а ягоная нага дзесь гублялася між шасьцерняў.

Дрыжачымі рукамі, пад гоман ёнкаў, крыкаў і лямантаў майстар разьняў прывод і дастаў Кліма. Галёнка яго правае нагі была расьцісьненая, як апалька, косьці пакрышаны на сечку, акрывáўлены ступак целяпаўся на шкуры, як чужы і непатрэбны.

Не марнуючы ні хвіліны часу, Андрэй павёз Кліма ў недалёкае мястэчка, дзе быў даволі добры лекар. Той, паглядзеўшы на клімаву нагу, паківаў галавою і сказаў:

— Нічога, чалавеча, з гэтае нагі ня будзе, яе трэба адразаць і то хутка, бо можа быць дрэнна.

— Няўжо няма іншага ратунку? з трывогаю ў галасе пытаўся Андрэй.

— Чалавеча, кажу табе, ня траць дарма часу на распытваньні. Ты-ж бачыш, што з косьцяў сечка зрабілася, можа які дробненькі ашчапак трапіць у жылы, дайсьці да сэрца і тады ніхто не паможа. А да таго ў ранах паўціскаены і дзёгаць, і бруд і хто ведае, што яшчэ, можа агнявіца прыхваціцца. Едзь у Стоўпцы, як мага хутчэй. Я толькі вось лепш перавяжу...

---

Ехаў Андрэй у Стоўпцы сыну нагу адразаць, а яго старыя бацькі ў хаце тупталіся. Баба нешта часта быццам заглядала на вуліцу праз покутнае вакно, а дзед няведама дзе зьнік. Калі на нейкі час усе выйшлі з хаты, баба ўпала на калені, заламаўшы рукі, глянула на абразы, а потым схіліла галаву аж да падлогі і яе бойныя сьлёзы зьмяшаліся з пяском... Што рабіў дзед, ніхто ня ведаў, відаць так-жа маліўся, але ў такім мейсцы, каб яму ніхто не перашкаджаў.

---

Цяжка глядзець Андрэю на сына, а калі воз падскакваў на выбоінах і Клім уздрыгваў ад болю, дык Андрэю быццам хто шпількаю калоў у сэрца, але найгорш даймала Андрэя думка, што сын астанецца калекаю на ўсё жыцьцё.

Далёка ехаць да Стоўпцаў. Вось ён падарозе даяжджае да вёскі, дзе жыў яго знаёмы фэльчар. І прыходзіць Андрэю думка, заехаць да фэльчара:

— Ад гэтага напэўна горш ня будзе, — думае ён.

Пажылы ваенны фэльчар, які за сваё жыцьцё

бачыў шмат людзіх няшчасьцяў у розных больніцах і лязарэтах, паглядзеў на клімаву нагу, памацаў пульс, ды пытае Кліма:

— А сэрца табе не баліць?

— Не, дзядзька, адно нага моцна баліць.

— Гм, праўда з нагою кепская справа, але адрэзаць яе заўсёды можна, а тымчасам з Божаю помаччу можна папрабаваць яе выратаваць.

— Дык ёсьць надзея выратаваць? — ажывіўся Андрэй.

— Вельмі маленькая надзея, але мой бацька калісь казаў, што ў Бога і павуціна часам вяроўкаю становіцца, дык вось папробуем і гэтую невялікую надзею выкарыстаць, толькі каб мне заўсёды быў воз напагатове.

Увязалі клімаву нагу крухмальным бінтам, пaабвязвалі раны і дзень у дзень фэльчар акуратна перавязваў іх і штодзенна даставаў з іх амярцьвелыя ашчапкі костак.

Але аднаго дня, глянуўшы на клімаў ступак, фэльчар зжахнуўся.

— Агнявіца, кепская справа.

На гэтыя словы бабулька вомірг была ля фэльчара.

— Кепска кажаш? — перапытала яна.

— Так кепска, цяпер ужо рыскаваць вельмі небясьпечна.

— О, сынок мой, з Богам усё можна.

Фэльчар паглядзеў на старую і пачаў далей аглядаць нагу Кліма, потым узяўся за палюх, паціснуў і спытаў:

— Ці ты чуеш, як я цісну?

— Чую, — адказаў Клім.

— Гм, вось праява. — Нічога больш ня кажучы, фэльчар вычысьціў раны, ачысьціў занятае агнявіцаю мейсца ад амярцьвелае скуры і на разьвітаньне казаў Андрэю, каб той нікуды не адлучаўся, бо можа кожнае хвіліны трэба будзе ехаць у Стоўпцы, а сам абяцаў два разы дзённа перавязваць раны.

Неадступна пры ложку Кліма вартавалі хатнія, а пасьля заявы фэльчара аб пагражаючай небясьпецы, дзед і баба ні на хвіліну не адхіляліся з хаты. Іхныя пачырванелыя вочы сьведчылі аб недаспаных ночах і аб шмат больш чым.

Агнявіца затрымалася, пакінуўшы па сабе глыбокую рану на сьпінцы ступака.

Клім прыкованы да ложка, шмат мусіў цярпець ад тупога болю косьцяў і ад частых перавязак, а найгорш ад заўсёднае небясьпекі, што ногу адрэжуць. Толькі калі пасьля перавязак, ля ягонага ложка садзілася бабулька і пачынала баіць сваім лагодным голасам дзіцячыя казкі, тады забываўся аб болю. Аднойчыя гэтыя казкі зьмяніліся такою гутаркаю:

—Вось бачыш, мой коцік, ня слухаў ты нікога, дык цябе Бог і пакараў. Як табе цяпер баліць нага, дык гэтак нам балела калісь сэрца, калі на цябе наракалі суседзі і калі ты вырабляў няма ведама што.

Глянуў Клім на схудзелае і зморшчанае абліччa любае бабулькі, на пачырванелыя ад недаспаных начэй вочы і толькі тады ўцяміў, колькі мусіла выцерпець дзеля яго ягоная добрая бабулька. Аж сьлёзы закруціліся ў яго на вачох. Ён узяў яе руку і прыглушаным голасам казаў:

— Я больш ніколі такім ня буду, ніколі...

Праз некалькі дзён фэльчар ужо ўсьміхаючыся перавязваў раны, а праз чатыры тыдні Клім пачаў пробаваць хадзіць.

Вялікае сьвята было ў андрэевай хаце, калі фэльчар здымаў цьвёрдае абандажаваньне з клімавае нагі. Маці, ведама маці, плакала з радасьці, а Андрэй казаў Кліму:

— Пацалуй, шаляніца ты, дзядзьку ў руку, каб ня ён, дык бы вось астаўся вечным калекаю.

— Мусіць тут больш чым я памаглі вашыя старыя, — апраўдваўся фэльчар.

— А што-ж мы, — ня гледзячы на нікога, казала бабулька, — гэта такая Божая воля.

Лекар з суседняга мястэчка пры спатканьні з фэльчарам, вельмі дзівіўся, што ўдалося ўратаваць нагу Кліму, а яшчэ больш з таго, што яна была нічуць не карацейшая за здаровую, але аб цудзе ніякае гутаркі ня было. І так можа лепш, бо калі яшчэ сёньня Клім недзе жыве, калі ў бурны ваенны час не злажыў дзе сваё маладое галавы, дык яму ніхто не дакучае і не дапытваецца аб тым, як шчасьліва скончылася няшчасьце, а дзед і бабулька так-жа нікому ня скажуць аб сваіх таёмных паводзінах, бо ўжо абое разьвіталіся навек з гэтым сьветам.

**А. Жменя.**

## *БОЖА!*

(Даслана з-за зялезнае заслоны)

**Божа, малітваў прачыстая мэта,**
**сьветлая песьняў натхнёных крыніца,**
**глянь, як у чулае сэрца паэты**
**б'е бязупынна жыцьцё навальніцай!**

**Сьлёзаў людзкіх ужо поўныя жмені,**
**кроў разьлілася струёю 'ля весьніц,**
**мушу я брацьцяў з бязьмерных цярпеньняў**
**выкупіць сілай натхнёнае песьні.**

**Словы хай сілай прарочай зазвоняць,**
**сэрца у песьню-малітву іх зьніжа, —**
**толькі ня дай мне ў крывавае «сёньня»**
**ўпасьці бясьсільна дарогай пад крыжам.**

**Крыж мне аднолькава цяжкі і мілы,**
**з гоняў дзіраваных яго за субрацьцяў**
**буду ахвярна нясьці да магілы,**
**толькі ня дай мне пад ім заламацца.**

**З ніваў яго я падняў бяз прымусу,**
**сілы каханьнем сваім толькі меру;**
**жоўці пякучай налі мне на вусны —**
**буду цярпець за Радзіму і верыць.**

**Буду аб долі адкупленай крозіць,**
**што расьцьвіце нам калісь за гарамі,**
**буду ісьці па цярністай дарозе,**
**потам крывавым льючы і сьлязамі.**

**Сэрцам натхнёным, Табой абагрэтым,**
**дай мне на'т з жоўці стварыць асалоду.**
**Дай адкупіць мне цярпеньнем паэты**
**волю і долю, і шчасьце народу.**

# Тыдзень Беларускіх каталіцкіх інтэлектуалістаў

Стараньнем Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня (БАКА) «Рунь» сёлета між 15-21 ліпеня быў наладжаны ў манастыры айцоў Бэнэдыктынцаў у Шэвэтонь (Бэльгія) — першы Тыдзень Беларускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў. Праводным клічам Тыдня было: «Адчуваць і думаць згодна з Хрыстом і Царквою» (**Sentire cum Christo et Ecclesia**).

У працах Тыдня ўдзельнічалі сябры «Руні» з Бэльгіі, Англіі, Нямеччыны і Францыі. Зборным пунктам для ўдзельнікаў быў Лювэн. Там у нядзелю 16-VII была адслужана ўрачыстая Служба Божая ў капліцы айцоў Бэнэдыктынцаў ў саслужэньні: а. д-р Робэрта ван Ковэлерт, а Льва Гарошка і а. д-р Чэслава Сіповіча. Прыгожа сьпяваў хор беларускіх студэндаў хоць і ў зьменшаным складзе. Там-жа ў Лювэне ў беларускім студэнцкім доме а. д-р Робэрт ван Ковэлерт меў даклад пафранцуску на тэму: «Закон сьв. Бэнэдыкта і ягоны ўклад у жыцьцё Царквы». На дакладзе акрамя ўдзельнікаў Тыдня былі прысутныя госьці.

У нядзелю адразу папалудні ўдзельнікі Тыдня пераехалі ў Шэвэтонь. Гэтая мяйсцовасьць паложаная між прыгожых лясоў і ўзгоркаў, вельмі падобная да Наваградчыны, прыпамінала ўдзельнікам адзін з прыгажэйшых куткоў нашае бацькаўшчыны, за якую супольна маліцца і для яе ахвярна працаваць, прыехалі яе расьсеяныя па сьвеце сыны. Прысутнасьць Я. Э. Слосканса Апостальскага Адміністратара Менскага і Магілёўскага стварала сваеасаблівую паважную і пабожную атмасфэру, бо ягоная асоба была быццам жывым вобразам глыбока веручае і шмат цярпячае бацькаўшчыны.

Падчас усяго Тыдня працы кожнага дня распачыналіся супольнаю малітваю ўсіх прысутных і Службаю Божаю, на якой штодня бальшыня ўдзельнікаў прыступала да сьв. Прычасьця.

На працягу ўсяго Тыдня лекцыі, даклады і дыскусіі займалі большую частку дня. Самыя тэмы дакладаў і салідная іх апрацаваньне ўносілі паважны і будуючы настрой. На праграму Тыдня зложыліся наступныя лекцыі і даклады:

Я. Э. Балеслаў Слосканс — «Бог ёсьць Любоў».

а. Леў Гарошка — «Прасьледаваньні хрысьціянства калісь і цяпер», «Хрысьціянства на Беларусі», «Што дала Беларусі Каталіцкая Царква?», «Грэх у прыватным і грамадзкім жыцьці».

а. д-р Чэслаў Сіповіч — «Адчуваць і думаць згодна з Хрыстом і Царквою», «Рэлігія», «Аб'яўленая рэлігія», «Сутнасьць Каталіцкае Царквы», «Праца над сабою».

а. Міхась Маскалік — «Імкненьне да дасканаласьці, жывучы ў сьвеце».

Алесь Надсон — «Сьв. Тамаш Мор, муж стану і мучанік за рэлігійныя перакананьні».

Міхась Наумовіч — «Выяўленьне духовага жыцьця праз мастацтва».

Вітаўт Рамук — «Каталік у выкананьні свайго прафэсійнага абавязку».

Тодар Мазура — «Бог — цэнтрам чалавека».

Тыдзень быў-бы ня зусім выкарыстаны, калі-б яго ўдзельнікі абмежаваліся толькі да самых тэарэтычных дакладаў і дыскусіяў. Ён меў на мэце паглыбіць рэлігійнае жыцьцё кожнага з удзельнікаў, дзеля гэтага ў пятніцу 20-VII адбыліся аднадзённыя рэкалекцыі, споведзь і сьв. Прычасьце ўсіх удзельнікаў.

Падсумоўваючы ўканцы працы цэлага Тыдня, усе прысутныя з прыемнасьцю маглі сьцьвердзіць, што ён прайшоў сапраўды вельмі карысна і памысна. Дзеля гэтага пастаноўлена на будучыню арганізаваць падобныя Тыдні з магчымасьцямі для большае колькасьці ўдзельнікаў.

Арганізацыя БАКА «Рун», якая арганізавала гэты Тыдзень, існуе толькі другі год і ня ёсьць масаваю, мэты яе паважныя і вялікія і ёсьць ня мала перашкодаў на шляху да іх ажыцьцяўленьня, але Бог не адмаўляе свае ласкі тым, хто імкнецца да шчырага выкананьня абавязкаў прызначаных Стварыцелем кожнаму чалавеку і кожнаму народу. Аб гэтым вельмі хараша гаварыў у сваёй канфэрэнцыі Я. Э. Слосканс, кажучы, што ўсе людзі маюць абавязак з удзячнасьці для любага Бога, услаўляць Яго сугучным акордам і кожнаму народу на сьвеце трэба выканаць нейкі тон у гэтым акордзе ўслаўленьня Бога. Беларускі народ мае так-жа прызначаны Богам тон, які мусіць выканаць чым найлепш. У Богу надзея, што Ён дасьць патрэбную ласку да выкананьня гэтага пачэснага абавязку.

Тыдзень Белрускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў — хоць гэта была першая спроба сілаў нядаўна

заснаванае арганізацыі, ёсьць вымоўным доказам, што сапраўды ласка Божая ўспамагае выкананьне шчырых намераў.

Адразу пасьля заканчэньня Тыдня дэлегацыя ад БАКА «Рунь» паехала ў Францыю на кангрэс «Пакс Романа».

Калі пазволяць матэрыяльныя магчымасьці, дык працы гэтага Тыдня будуць выданы асобным зборнікам; а калі не, дык будуць хоць часткова выкарыстаны на старонках беларускае каталіцкае пэрыядычнае прэсы.

Астаецца толькі пажадаць, каб яшчэ тыя з беларускае каталіцкае інтэлігэнцыі, якія параскіданы па усіх закутках сьвету і да гэтага часу ня сталіся сябрамі «Руні», пастараліся гэта зрабіць, чым хутчэй і ўнесьлі свой уклад для беларускае грамадзкае і рэлігійнае справы, паглыбляючы сваю веду і веру, і ўмацоўваючы сваю любоў да Бога і Бацькаўшчыны. **А. Н.**

# Зьезд „Pax Romana" у Рэймсе

(Уражэньні беларускага дэлегата)

Закончыўшы шчасьліва Першы Тыдзень Беларускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў у Шэвэтонь, беларуская дэлегацыя ў ліку пяцёх чалавек ад імя БАКА «Рунь» выбралася ў суботу 21 ліпеня на Зьезд «Пакс Романа» ў Рэймсе (22-29 ліпеня). Гэта ўжо трэці раз беларусы датрымоўваюць кроку ўдзельнікам з усяго сьвету ў падобных зьездах; першы раз сустрэліся з ім у Вэрэ недалёка ад Лёндану ў 1948 г., другі раз у Амстэрдаме ў 1950 г. і цяпер пастанавілі за ўсякую цану быць у Рэймсе. Тымбольш гэта было неабходна, што на гэтым Зьезьдзе мела канчаткова вырашыцца справа прыняцьця Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь» у сябры «Пакс Романа».

Падарожжа не абышлося бяз прыгодаў. З праектаванае вялікае дэлегацыі асталося толькі пяць чалавек, бо некаторыя з нашых сяброў не атрымалі дзеля розных фармальнасьцяў францускае візы, іншыя дзеля падрыхтоўкі да васеньніх экзамінаў разьехаліся ў розныя манастыры, каб там «каваць» скрыпты. На француска-бэльгійскай граніцы, куды мы прыехалі вечарам і дзе мусілі перасесьці на іншы цягнік, даведаліся, што мы выбралі кепскае спалучэньне, бо цягнік на Рэймс будзе толькі а 7 г. раніцы наступнага дня. Нас 5 чалавек мусіць пераначаваць у Жывэ, але дзе і ў каго? На станцыі ўрадаўцы прапануюць голыя лаўкі. Аб гатэлі няма мовы, бо мы ўсе пяцёх за час свайго падарожжа так абязгрошыліся, што маючы разам больш дваццаці кішэняў, ня маем ніводнае ў якой-бы ня веяў вецер. Пасьля кароткае нарады пастанаўляем знайсьці мяйсцовага пароха, можа ён знойдзе для нас які куток для начлегу. І не памыліліся. Выйшаў з спавядальніцы нізкага росту з прыемнай усьмешкай на абліччы францускі дзекан з Жывэ. Даведаўшыся, што мы едзем на Зьезд у Рэймс, але ня маем ані цягніка, ані грошаў, ахвотна годзіцца памагчы нам у прыгодзе, але...

— Ці ня будзеце зашмат вымагаць? — кідае яшчэ адно пытаньне разважны дзекан і ўсьміхаецца.

— Да душы не! Абы пераспаць, войчанька! — адказваем гуртам.

Аднак мы больш атрымалі з гасьціннасьці, чым спадзяваліся. Дзекан накарміў усіх і даў усе выгоды, каб маглі добра праспаць ноч.

Раніцай ледзь сьвет а. Ч. С. адправіў Службу Божую, усе прычасьціліся. Пасьля, хутка пасьнедаўшы і падзякаваўшы гасьціннаму дзекану, селі на цягнік.

З Жывэ ў Рэймс ідзе дарога нейкі час уздоўж ракі Мэўз, а на кругазоры відны горы Ардэны; буйная зелень, шумлівыя воды рэчкі, вяршыні гор —усё гэта ў зьзяньні ранешняга летняга сонца тварыла нязвычайна прыгожыя абразы і калыхала душу супакоем і настройвала да малітвы. Мы пачалі сьпяваць беларускія рэлігійныя песьні: «Пачнеце вусны нашы гімн Божы...»

І так гімн за гімнам, песьня за песьняй і мы не заўважылі, як хутка сталі пад'яжджаць да Рэймсу, сталіцы Шампаніі, ведамай ужо за часоў Юлія Цэзара (101-44 пер. Хр.) пад іменем Дурокорторум. У 1946 г. Рэймс налічваў каля 111.000 жыхароў. Гэты горад сёньня крыху запушчаны і брудаваты, але за час свайго існаваньня ў ім адбываліся няраз падзеі сусьветнага значэньня: у 496 г. ў ім атрымаў хрост кароль Клёдвіг з рук сьв. Рэмігія, а ў 1420 г. сьв. Жанна д'Арк увяла ў Рэймскую катэдру Карла VII, аддаючы яму вольную Францыю. Вялікая француская рэвалюцыя не прайшла моўчкам каля рэймскіх памятак; рэвалюцыянэры разьбілі ампулку сьв. Рэмігія аб памятнік Людовіка XV і каб не народ, развалілі-б Рэймскую катэдру, адну з лепшых пэрлаў ґотычнага мастацтва. Дзякуючы Божаму правіду ўцалела яна і цяпер, як і калісь, ёсьць далей сымбалем узлёту душы да Бога, памяткаю веліччы рэлігійнага жыцьця Францыі і, ня сумняёмся, натхненьнем яе адраджэньня.

Зьезд «Пакс Романа», хоць і адбываўся пад клічам: «Хрысьціянскі сьветагляд у адносінах да прафэсійнага жыцьця і яго ўфармаваньня», шмат прысьвяціў часу на чыста арганізацыйныя, фармальныя справы.

У Зьезьдзе ўдзельнічалі арганізацыі студэнтаў і інтэлектыалістаў. Звычайна аднак даклады, якія адбываліся ў вялікай, прыгожай салі «Шамбр дэ Комэрс», былі супольнымі для ўсіх. Даклады былі на высокім навуковым узроўні і прасякнутыя глыбокім хрысьціянскім духам. Успомнім найважнейшыя з іх: праф. Рамон Суґраніес дэ Франш (Фрайбург) галоўны сакратар «Пакс Романа» гаварыў аб заданьнях інтэлігэнцыі ў сучаснасьці; праф. Сэрбоны Оліўе Лякомб вельмі глыбока разьвіў тэму: Прысутнасьць ува усім хрысьціянскае думкі; праф. Ґаґх С. Тэйлёр (З.Ш.А.) па прафэсіі хэмік меў даклад на тэму: Маральная адказнасьць у прафэсіі; праф. Фаўсто Монтаўарі (Італія) прачытаў даклад: Вольныя прафэсіі і іхняе палажэньне ў грамадзтве.

«Пакс Романа» ёсьць найбольшай каталіцкай сусьветнай арганізацыяй прафэсіяналаў, таму на Зьезьдзе ёсьць вельмі цікавымі і важнымі працы паасобных камісіяў, як: пісьменьнікаў, фармацэўтаў, мэдыкаў, інжынераў і пад. Прапановы, прынятыя на камісіях, разглядаюцца на агульных паседжаньнях і тут яны прымаюцца, або адкідаюцца. Беларусы ўдзельнічалі ў камісіях: пісьменьнікаў, эканамістаў і сьціслых навук.

Адносна прыняцьця БАКА «Рунь» у сябры «Пакс Романа» дык трэба зазначыць, што заява аб прыняцьці была зложана ў мінулым годзе, справа аднак зацягнулася, бо неабходна было выканаць некаторыя фармальнасьці, як: выдаць друкам статут на ангельскай мове, атрымаць яго падцьверджаньне з Рыму, а перадусім трэба было належна зарганізавацца самым і выказацца дзейнасьцю. Усё гэта з Божай помаччу было выканана. Адумысная камісія, пакліканая пленарнай асамблеяй у асобах: праф. Мійё (француз), праф. Помпэ (галяндзец) і Рушкоўскі (паляк) — сьцьвердзіла, што БАКА «Рунь» адказвае ўмовам, якія вымагаюцца ад сяброў «Пакс Романа», бо яна гуртуе беларускую інтэлігэнцыю ўва ўсіх краінах сьвету, яе статут адказвае мэтам «Пакс Романа», яна ёсьць прызнанай і рэкомэндованай найвышэйшымі каталіцкімі царкоўнымі ўладамі. Дзеля гэтага Камісія падала прапанову на пленарным паседжаньні, каб БАКА «Рунь» было прынята ў сябры «Пакс Романа» Адзьдзел Інтэлектуалістаў з поўнымі правамі. Ад імя Камісіі рэфэраваў справу на пленум праф. Помпэ. Прапанову Старшыні Камісіі праф. Лякомб падае да развагі ўсёй асамблеі. Зрываюцца бурныя воплескі. Усе дэлегаты выказваюць згоду, каб БАКА «Рунь» была прынята ў сябры. Тады а. д-р Ч. Сіповіч зьвяртаецца да старшыні прызыдыюм і да ўсіх прысутных з падзякай за той гонар, які мы, беларусы-каталікі, атрымалі.

«Шлях беларусаў каталікоў цяжкі, — кажа прамоўца, — бо за апошнюю вайну, ніхто толькі ня выцярпеў, колькі мы, аднак ня трацім надзеі. З Божай помаччу мы зарганізаваліся, разьвіваемся і расьцём тут на выгнаньні. Мы спадзяёмся, што «Пакс Романа», якое цяпер мы зьяўляемся сябрамі, будзе нам моцным апірышчам, а таксама і мы ў будову агульна-хрысьціянскага ідэалу на зямлі ўнясём свой уклад. Адносіны старшыні «Пакс Романа» і яго Сакратара да гэтага часу да нас беларусаў можна выказаць прыказкай: «Лагодныя ў спосабе — моцныя ў справе», спадзяёмся, што так будзе і далей, бо такім ёсьць дух «Пакс Романа». Шчыра дзякую!»

Дасло́ўна ўсе дэлегацыі б'юць брава і шчыра віншуюць нас.

Тут-жа пасьля прыняцьця Беларускага Аб'еднаньня, на парадку дня стаіць справа прыняцьця наддунайскіх немцаў і чэхаславакаў. Як аб адных, так і аб другіх Камісія не змагла пераканацца, што іх можна прыняць і таму перадае справу на плёнум, а там вырашаюць: прыняцьце абедзьвёх арганізацыяў тымчасам адлажыць.

Беларуская дэлегацыя згодна са сваім старадаўным звычаем ушанавала так важную падзею ў жыцьці БАКА «Рунь» скромнаю бясе́даю. Думаю, што каб нашы суродзічы былі прысутныя на салі, калі нас прымалі ў сябры аднае з найбольшых сусьветных арганізацыяў, да чаго мы прышлі сваімі ўласнымі сіламі, дык бяз сумніву кожны пешыўся-б разам з намі і напэўна падкінуў-бы ад сябе ня толькі які сьціплы датак на бяседу, але і на маладую яшчэ «Рунь».

Зьезд у Рэймсе ёсьць гістарычнай датай у жыцьці БАКА «Рунь». Гэтак ацанілі яго ўсе прысутныя там дэлегаты, гэтак ацэняць яго і ўсе іншыя нашы суродзічы бяз розьніцы палітычных, а нават і рэлігійных пераканаНьняў.

**Дэлегат.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### НАСТУП НА РЭЛІГІЮ Ў МАДЗЯРШЧЫНЕ.

Сёлета 14 кастрычніка ў Ватыкане будуць урачыста абходзіць 1500-ыя ўгодкі Халкідонскага сабору, які адбыўся ў 451 г. Гэта быў чацьвёрты з чаргі сусьветны сабор. На ім асуджана ерась монофізытаў.

### НАСТУП НА РЭЛІГІЮ Ў МАДЗЯРШЧЫНЕ.

Камуністычны суд у Будапэшце сёлета ў канцы чэрвеня засудзіў Я. Э. Язэпа Гроша архіб. з Калочы і ягоных сяброў на вялікія кары. Гэты прысуд выклікаў у цэлым сьвеце шырокае водгульле і абураньне. Газэты розных кірункаў амаль

адназгодна сьцьвердзілі, што гэты акт камуніст. ўлады азначае ня толькі асуджаньне каталіцкага ерарха, але ёсьць выразнаю спробаю скамправітаваць Катал. Царкву ў вачох вернікаў. Сталін і ягоныя паплечнікі пераканаліся, што Каталіцкую Царкву нельга так паняволіць, як Праваслаўную, дзеля гэтага пастанавілі зьнішчыць яе; значыць на лаве падсудных у Будапэшце знайходзілася абвінавачанаю сама рэлігія, якая стаіць папярок камуністычнае дарогі.

Тымчасам у Чэхаславаччыне робіцца іншая спроба зьнішчэньня Каталіцкае Царквы, там плянуецца ўтварэньне «Праваслаўнае Царквы лацінскага абраду».

## СПРОБЫ «НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ» ЦАРКВЫ Ў АЛЬБАНІІ.

Падобна, як ува ўсіх падсавецкіх краінах, у Альбаніі паход супраць Каталіцкае Царквы загастраецца штораз больш. Сёлета на пачатку жніўня альбанскі камуністычны ўрад выдаў дэкрэт, якім альбанскім каталіком забараняецца ўсякая лучнасьць з Ватыканам, затое ерархія новае «нацыяналізаванае» каталіцкае Царквы мае атрымаць запамогу ад ураду.

Каталікоў у Альбаніі было толькі 120.000 чалавек, а ерархаў ужо даўно або выгнана, або арыштавана.

## ВЫМОЎНЫ ЛІСТ ГІШПАНСКІХ БІСКУПАЎ.

Часапіс Толедскае архідыецэзіі сёлета ўканцы чэрвеня апублікаваў супольную заяву гішпанскіх каталіцкіх ерархаў у справе грамадзкае справядлівасьці і дабрадзейнасьці, у якім між іншым востра асуджаецца «ўсякі таталітарызм, нават і лагодны».

## САЦЫЯЛЬНЫ ТЫДЗЕНЬ.

Францускія Каталіцкія Інтэлектуалісты ладзілі сёлета між 17-24 ліпеня ў Монтэлье 38-ы Сацыяльны Тыдзень, праводнаю тэмаю якога было: «Біялягічныя адкрыцьці і грамадзкая мэдыцына на службе чалавека». Аграмадная колькасьць удзельнікаў і шырокае водгульле на старонках францускае прэсы, выкліканае гэтым Тыднем, найлепш сьведчаць аб яго вялікім практычным значэньні.

## ПЯТЫ КАНГРЭС КАТАЛІЦКИХ ЛЕКАРАЎ.

Сёлета 6-9 ліпеня адбыўся ў Парыжу Пяты з чаргі Кангрэс Каталіцкіх Лекараў, які займаўся тэмаю: «Фармаваньне маральнае сьведамасьці ў дзяцей.

## ПАМЁР КАРДЫНАЛ САПЕГА.

Дня 24 ліпеня памёр у Кракаве Я. Эм. Кардынал Адам Сапега ў веку 84 г. Гэта быў апошні кардынал на свабодзе за зялезнаю заслонаю.

## ПАДРЫЎНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ КАМУНІЗМУ.

У падсавецкіх краінах распаўсюджана каля 30 мільёнаў экзэмпляраў брашуры, надрукаванае ў Маскве, дзе падаюцца дырэктывы барацьбы супраць Каталіцкае Царквы.

Вось яе найважнейшых шэсьць пунктаў:

1. Стварыць падзел між вернікамі і сьвятарамі, і між сьвятарамі і біскупамі.
2. Не рабіць мучанікаў. Арыштаваных духоўных абвінавачваць, як злачынцаў.
3. Падбухторваць да барацьбы клясаў у радох сьвятарства. Падбураць ніжэйшае духавенства супраць вышэйшага.
4. У кожнай краіне падтрымоўваць маленькія рэлігійныя сэкты ўсімі магчымымі сродкамі.
5. Урад павінен старацца распасьцерці свой ўплыў на рэлігійныя ўстановы, уводзячы камуністаў на кіруючыя рэлігійныя становішчы.
6. Манашыя чыны і зграмаджаньні трэба зьнішчыць, бо яны ёсьць калёніямі папства (КІПА).

## ЦУДОЎНЫЯ АЗДАРАЎЛЕНЬНІ Ў ЛЮРДЗЕ.

Бюро мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрдзе нядаўна падало да ведама, што ў 1950 г. сьцьверджана тры аздараўленьні, якія з лекарскага гледзішча ёсьць нявыясьняльнымі. Акты аб гэтых аздараўленьнях перасланыя ў біскупскія ардынарыяты аздароўленых вернікаў, бо толькі духоўная ўлада кампэтэнтная прызнаць нейкі факт за цуда.

## СЬМЕРЦЬ СЯСТРЫ СЬВ. ТЭРЭСЫ.

Дзякуючы вялікай славе і папулярнасьці сьв. Тэрэсы ад Дзіцяці Ісуса была так-жа шырока ведамая і яе родная сястра Агнешка ад Хрыста, якая да апошняга часу была ігуменьняю ў тым-жа манастыры кармэлітак, дзе жыла яе сьвятая сястра. У адмену ад сьв. Тэрэсы, якая памерла ў веку 24 гады ўжо 54 г. таму, Агнешка дажыла глыбокае старасьці і памерла сёлета 28 ліпеня ў веку 90 гадоў.

## ГАЛАСЫ АБ РЭЛІГІЙНЫМ МАСТАЦТВЕ.

Аб тым, куды йдзе сучаснае т. зв. мадэрнае рэлігійнае мастацтва можна даведацца з сьвятыні ў Ассі, якая пабудавана ў Францыі ў 1937 г. Знайходзіцца яна ў Альпах ля швайцарскае граніцы. Апошнім часам мастацкая і чыста публіцыстычная прэса галасна загаварыла аб гэтай сьвятыні, бо гісторыя яшчэ ня ведае такога ўпадку мастацтва агулам, а рэлігійнага ў асаблівасьці, якое знайшло мейсца ў Ассі. Нейкая блытаніна бязформенных лініяў мае прэдстаўляць сьв. Дамініка, а Укрыжаваньне дык мела з'абражаць нейкая падаўгастая маса падобная да двох танклявых пукоў парэпанае яловае кары. У мінулым месяцы мяйсцовы біскуп загадаў вынесьці з сьвятыні гэтае «укрыжаваньне». Загад біскупа стаўся нагодаю крытыкі сучаснага мастацтва агулам. З шматлікіх галасоў заслугоўвае на ўвагу кароткая зацемка «Забаронены Хрыстос» Іва Флёрэнса ў зусім сьвецкай газэце «Ле Монд» з дня 17-18 VI г.г., дзе між іншым кажацца: «Я яшчэ ніколі ня чуў, каб нейкі

біскуп забараніў сумную гандлярскую іконаграфію якая ня мае ніякага адношаньня да мастацтва, ці то рэлігійнага, ці не, ці агулам да веры. Усё,што ёсьць млявае, саладкаватае, бясколернае, няшкоднае (прынамся повідна), гідкае, непасьлядоўнае, неасабовае, вылітае з тых самых формаў, пазбаўленае ўсякае красы і ўсякае сілы (тут маю на ўвеце статуі)—паўсюдна іх уважаюць добрымі. Што мне наагул выдаецца дрэнным, дык гэта тое, што акрываўлены і зранены Хрыстос заўсёды лічыўся няўмесным, трывожачым, а перадусім празмерным; і заўсёды мілёй быў бачаны, або талераваны Хрыстос салодзенькі...» «Няхай мне выбачыць пабожная індустрыя, але яе банкроцтва будзе пацяшаючым знакам часу. Можа яна аднак цешыцца тым, што гэта ня станецца заўтра».

**РЭЛІГІЙНЫ СКЛАД НАСЕЛЬНІЦТВА ТУРЦЫІ.**

Турэцкі часапіс «Эні Собах» нядаўна апублікаваў статыстыку рэлігійнага складу насельніцтва Турцыі на аснове перапісу насельніцтва з мінулага году. Выглядае яно так: магомэтанаў — 18.497.807, праваслаўных — 103.839, юдэяў — 70.000, армянаў — 60,260, каталікоў усіх абрадаў (лацінскага, армянскага, бізантыйскага і халдэйскага) — 21.950, пратэстантаў — 5.213, безрэлігійных — 561. Паводля выкананьня сваіх рэлігійных прыпісаў адносіны выглядаюць наступна: хрысьціяне 65,5 прац. юдэі 65,5, магомэтане 23, іншыя рэлігіі 8,6.

**РЭЛІГІІ Ў СЬВЕЦЕ.**

Статыстычная служба ў Ватыкане паведамляе, што сучаснае насельніцтва сьвету паводля галоўных веравызнаньняў мае такі склад: каталікоў 400 мільёнаў, пратэстантаў 202 мільёны, праваслаўных 161 мільён, конфунцыян і таоістаў 393 мільёны, магомэтанаў 296 мільёнаў, гіндусаў 252 мільёны, буддыстаў 118 мільёнаў.



**Беларускі краявід у часе жніва. Наваградчына.**

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

**АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД БАКА «РУНЬ».**

У жыцьці маладое арганізацыі, якою ёсьць Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь» сёлетні год азначыўся паважнымі здабыткамі. Першы раз у нашай гісторыі агулам адбыўся Тыдзень Беларускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў (справаздачу аб ім гл. стр. 10), а дня 16-VII адбыўся Агульны Зьезд у Шэвэтонь. Справаздачы старшыні і прадстаўнікоў з паасобных краінаў выявілі, што не зважаючы на кароткі час свайго існаваньня і невялікі лік сяброў, арганізацыя зрабіла немалую працу, якая вялася ў двох напрам-

ках: была скіравана на нутранае жыцьцё сяброў і на вонкавую дзейнасьць.

Пасьля справаздачаў і ўсебаковае дыскусіі над імі намечана плян працы на бягучы год і выбрана новую ўправу, у склад якое ўвайшлі: старшыня — Ал. Надсон, сябры ўправы — В. Рамук і Т. Мазура.

Пастаноўлена, што інфармацыйны бюлетэнь «Рунь» мае выходзіць прынамся раз на паўгода і зьмяшчаць працы сяброў арганізацыі.

## ПРЫНЯЦЬЦЕ БАКА «РУНЬ» У СЯБРЫ «ПАКС РОМАНА».

Сёлета 26-га ліпеня міжнародная Арганізацыя Каталіцкіх Інтэлектуалістаў «Пакс Романа» прыняла ў лік сваіх сяброў БАКА «Рунь». Дакладней аб гэтым глядзі ў асобным артыкуле на стр. 11.

## АНГЛІЯ.

### З жыцьця ЗБВБ.

Адна з найбольшых беларускіх арганізацыяў у Англіі: Згуртаваньне Беларусаў у В. Брытаніі налічвае цяпер 5 адзьдзелаў, каторых цэнтры знаходзяцца ў: Лёндане, Брадфордзе, Кэмбрыдж, Ковэнтры і Манчэстэр. Ува ўсіх адзьдзелах сьцьверджана вялікую ахвярнасьць сяброў. У Манчэстэры ёсьць свой клюб, у Брадфордзе вядуцца стараньні купіць Беларускі Дом для адзьдзелу Ёркс.

ЗБВБ мае свае прадпрыемствы: дэнтыстычную лябораторыю і фотографічнае студыё, абодва даюць даходы. Затое летась зьліквадавана Таварыства Помачы Перасыланьня Пасылак дзеля нястачы кампэтэнтнага кіруючага пэрсаналу.

Беларускі Дом у Лёндане паволі вызваляецца ад задоўжанасьці. За мінулы год сплочана больш 1.000 фунт. шт. прыватных пазык, куплена шмат рэчаў у Дом, выплачана часьць грошаў у ангельскі банк. Акрамя матэрыяльнае карысьці Беларускі Дом мае вялікае маральнае і культурнае значэньне. Тут адбываюцца розныя зборкі, даклады і прыняцьці. Шмат чужынцаў адведала Беларускі Дом і тут пазнаёміліся бліжэй з беларусамі. Між іншымі за мінулы год Б. Д. адведалі: чэскі гэнэрал Прхала, славацкі дзеяч др. Прідовок, старшыня Згуртаваньня Украінцаў у В. Брытаніі др. О. Фундук, уся ўправа СУБ з Лёндану, ведамы украінскі дзеяч Панчук, кандыдат у ангельскі парлямант капітан Кірбы, старшыня Лігі Каталіцкіх Жанчын В. Брытаніі Доуглас Вудрауф, журналстка Міс Сіднэй і шмат іншых.

Дзеля вялікага значэньня, якое мае Б. Д. для ўсіх беларускіх арганізацыяў у В. Брытаніі на апошнім Зьезьдзе ЗБВБ было пастаноўлена правесьці зборку доўгатэрміновых пазык ня менш па 10 фунтаў ад сябры з мэтай хутчэйшае сплаты задоўжанасьці ў банку і канчатковага перапісаньня Б. Д. на ўласнасьць ЗБВБ. Калі-б удалося ажыцьцявіць гэтую пастанову, было-б сапраўды вялікім асягненьнем беларусаў у В. Брытаніі.

### Акруга Ёркс.

У Брадфордзе дня 3 чэрвеня адбыўся пяты Зьезд сяброў ЗБВБ Акругі Ёркс. Весткі аб жыцьці беларускае калёніі ў гэтай акрузе можна было часта стрэнуць у беларускай прэсе. У мінулым годзе Ёркскі Адзьдзел значна ўзмоцніўся, бо ў рады ягоных сяброў вярнулася група, якая калісь была выступіла і дзейнічала ў радох апазіцыі. Іхны паварот і раскрыцьцё сапраўднага аблічча апазіцыі значна пабудзіла дзейнасьць Ёркскага Адзьдзелу і агулам ЗБВБ, аб гэтым сьведчылі так справаздача старшыні, як і скарбніка дагэтуляшняе ўправы Адзьдзелу. Складкі і ахвяры на Беларускі Дом у Брадфордзе сыстэматычна ўзрастаюць і ёсьць надзея, што хутка можна будзе прыступіць да куплі Дому.

У склад новае ўправы выбрана: старшыня — Б. Бутрымовіч, заступнік старшыні — Я. Міхалюк, сакратар — Я. Сеўковіч, скарбнік — М. Ягоўдзік.

### Абсталяваньне капліцы.

У доме а.а. Марыянаў у Лёндане, дзе месьціцца Беларуская Каталіцкая Місія для Англіі і дзе адбываюцца багаслужэньні для беларусаў, нядаўна закончана абсталяваньне капліцы, пастаўлена прыгожы іконастас, выкананы а. Еронімам Левсінк Ч. С. Б.

## БЭЛЬГІЯ.

### У студэнцкй калёніі.

Сёлета з канцом акадэмічнага году закончылі свае студыі: інж. Янка Жытко — хэмічная індустрыя і лекар Рагуля Барыс — мэдыцына.

На час вакансаў апусьцеў Беларускі Студэнцкі Дом, бо студэнты паразьязджаліся так, каб выкарыстаць выкацыйны час з карысьцю для сваіх далейшых студыяў; студэнты эканоміі выехалі ў Нямеччыну адведаць лягэры, дзе нашы суродзічы ня маюць свайго прадстаўніцтва ў лэгэрнай адміністрацыі; студэнты гісторыі — адведваюць заходня-эўрапэйскія бібліятэкі і пад. А хто мае экзамэны ўвосень — праводзіць час у якой небудзь ціхай манастырскай келіі.

### Капліца БАПЦ.

Лювэнскі Унівэрсытэт адпусьціў адну салю для ўладжаньня праваслаўнае капліцы для абслугі праваслаўных беларускіх студэнтаў, душпастырствам якіх займаецца а. Аўгень Смаршчок. Вядзецца праца для абсталяваньня капліцы згодна з вымогамі абраду.

### З. Ш. А.

**Новя парахвія.**

Сёлета 20 траўня ў Нью Браўнсвік адчынена новая парахвія БАПЦ. Настаяцелем назначаны а. Сьцяпан Войтэнка.

**Прыезд яп. Васіля.**

Ідучы за агульнаю хваляю эміграцыі, япіскап БАПЦ Васіль пераехаў із Нямеччыны ў З.Ш.А. У Нью Ёрку віталі яго прадстаўнікі мяйсцовых беларускіх нацыянальных арганізацыяў і ўстановаў.

**Яшчэ адзін часапіс.**

Сёлета ў ліпені вышаў у Чыкаго (З. Ш. А.) новы беларускі скаўцкі часапіс «Рада Кругу» прызначаны для старэйшых скаўтаў. Часапіс выдае на цыклястылі Галоўная Кватэра Беларускіх Скаўтаў на Чужыне, у выданьні якое сёлета паказаўся адзін нумар «Юнака» і якая выдавала раней «С.І.С.». Новаму часапісу трэба пажадаць, каб не спаткала яго доля гэтага апошняга.

### КАНАДА.

**Беларуская песьня ў паходзе.**

Гурток Мастацкае Самадзейнасьці Беларускае Народнае Песьні і Танцаў пры Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Вінніпэгу пад кіраўніцтвам А. Радчанкі сёлета між 23-26 траўня прымаў актыўны ўдзел у міжнародным фэстывалю, які ладзіў мяйсцовы адзьдзел УМСА ў сувязі з сотымі ўгодкамі існаваньня гэтае арганізацыі. У фэстывалю ўдзельнічала 24 этнічныя групы; беларуская была між імі наймалодшаю, але выйшла на першае мейсца дзякуючы перадусім маладому таленавітаму салісту Міхасю Радчанку і добраму кіраўніцтву. Прыгожы чысты тэнар і ўмелае выкананьне беларускіх народных песьняў выклікала сапраўдную буру воплескаў у слухачоў. Добра такжа сьпяваў жаночы квартэт.

Бог ніколі ня скупіў талентаў для беларускага народу, а калі да таго знайходзяцца кіраўнікі, якія дапамагаюць ім разьвіцца, дык нават такая невялікая група беларусаў, як у Вінніпэгу можа і для сябе, і для чужынцаў унесьці ў будзённае жыцьцё некалькі сьветлых мамэнтаў дзякуючы цудоўным мэлёдыям беларускіх народных песень.

### НЯМЕЧЧЫНА.

**Выданьне «Белае Кнігі».**

Рэдакцыя газэты «Бацькаўшчына» запраектавала выданьне дакумэтальнае кнігі ў справе абшару Беларусі і неабаснаваных пасяганьняў некаторых суседзяў на беларускія землі. Кніга мае выйсьці ў ангельскай, францускай і нямецкай мовах у форме «Белае Кнігі». Рэдакцыя зьвярнулася з заклікам да ўсіх беларусаў, каб прысылалі складкі на гэтае выдавецтва. Грошы належыць слаць: у Нямеччыне ў рэдакцыю «Бацькаўшчыны», а ў іншых краінах, на прэдстаўніцтвы гэтае газэты зазначаючы на пераказах «На Белую Кнігу».

**Між студэнтаў.**

Сёлета на Міжнародным Зьезьдзе Студэнтаў з краінаў акупаваных бальшавікамі, які адбыўся ў Мюнхэне між 15-19 ліпеня, заснавана Арганізацыю Студэнтаў з-за Зялезнае Заслоны.

На гэтым Зьезьдзе актыўна ўдзельнічала беларуская дэлегацыя ад імя Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (аседак у Лювэне) у складзе: Я. Запруднік і Ул. Цьвірка. У канцовых выбарах Я. Запруднік увайшоў у склад управы новае арганізацыі як заступнік старшыні.

---

У проціўвагу да міжнароднага камуністычнага фэстывалю моладзі, які сёлета на пачатку жніўня адбываўся ў савецкай зоне Бэрліну, моладзь з 13 краінаў, акупаваных бальшавікамі, арганізавала супраць-дэманстрацыю ў якой прыняла актыўны ўдзел беларуская моладзь з Нямеччыны і Бэльгіі.

---

## НА ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ».

**Апошнім часам прыслалі:**

Галу-ка А. 1.000, Каран-кі М. 300, Каш-н У. 500, Ліс С. 350, а. М. Маскалік (Харыт. Сл.) 16.000, Но-ак М. 1.000, Наг-ы Б. 980, Ром-к А. 1.000, Ск-ат Я. 1.000, С. Б. Б. 2.800, Тар-о С. 100, Тр-го Фр. 350, Эміл-к С. 300, Юр-к Р. 300, Юзэ-іч Г. 1.750.

---

## ПОШУКІ:

**Канавала Васіля** с. Канона, вывезенага ў 1944 г. у Нямеччыну, шукаюць яго аднавяскоўцы. Пісаць на адрас рэдакцыі.

**Караленка Міколу** с. Гальяша і **Шышка Васілія** с Аляксея просіцца падаць свае адрасы ў Беларускую Каталіцкую Місію ў Парыжу, для перасланьня ім дакумантаў. Пісаць на адрас:

Mission Biélorussienne Catholique en France, 95, Rue de Sèvres, Paris-VI^e - France.

Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## ТАНЦЫ НАД БЯЗОДНЯЮ.

Малады нямецкі місіянар з Мюнхэну, які ехаў у Аргэнтыну караблём «Формоза», апавядае сваё ўражэньні аб затапленьні італьянскага карабля «Мафальда».

«У шэсьць з палавінаю гадзін вечара «Формоза» атрымала вестку аб катастрофе «Мафальды» і адразу пасьпяшыла на помач. Перад дзявятаю гадзінаю карабель ужо быў на мейсцы катастрофы. «Мафальда» радасна прывітала ратунковы карабель, яе задняя частка была ўжо занурана, а перад быў узьняты над паверхняў мора. Пасажыры першае і другое клясы, маючы весткі аб прыезьдзе ратунковага карабля, нічым ня турбаваліся і пасьля вячэры весела танцавалі. Раптам у караблі пачуўся трэск, узняўся крык, сырэны завылі на ўсю сілу і з страшэнным трэскам «Мафальда» перавярнулася на бок і праз некалькі хвілінаў колёс занурыўся пад воду. Жадоба танцаў ў пасажыраў першае і другое клясы выясьняе той факт, што з гэтае катастрофы выратаваліся пераважна пасажыры трэцяе клясы. Трэба было быць сапраўды бязглуздым, каб забыцца аб небясьпецы, убачыўшы ратунковы карабель і ладзіць гульню над пропасьцю. Але гэта заўсёдная азнака разбэшчанага сьвету: ён танцуе над бязодняй, у якую мае правалiцца».

## «УСТУП ЗАБАРОНЕНЫ».

Калісьці ў Варшаве можна было часта ўбачыць на дзьверах багатых дамоў напіс: «Жабраком і прашаком уступ забаронены».

У 1944 г. прайходзячы па абязьлюдненых вуліцах Варшавы можна было часам пабачыць у зруйнаваных дамох зеўраючыя дзьверы з тымі-ж забараняючымі напісамі, толькі цяпер яны былі так паадчынятыя, што і калішнія ўласьнікі не маглі іх зачыніць і для іх самых цяпер уступ зрабіўся забаронены. Нехта пакрыжаваў іхныя гордыя пляны.

## БЯДНЕЙШЫ ЗА БЕДАКА.

Адзін арабскі пісьменьнік апавядае аб сабе: «Я ніколі не пераймаўся маімі турботамі і горам за выняткам толькі аднаго разу, калі прышлося йсьці басанож, ня маючы за што купіць чаравікаў. Так ідучы, я зусім падбіўся і вельмі засумаваў. У такім настроі я ўвайшоў у адну сьвятыню і ў прытворы ўбачыў там калеку зусім бяз ног. Глянуўшы на яго, я падумаў, што ўсё-ж я мушу быць вельмі задаволены і ад шчырага сэрца я падзякаваў Богу, што магу хадзіць маімі нагамі хоць і без чаравікаў, бо той бязногі, як-бы ён быў шчасьлівы, калі-б мог хадзіць басанож так, як я».

## БЯЗ РЭЛІГІІ, ГЭТА ІНШАЯ СПРАВА...

Перад вайною францускі сэнатар Рэно прыехаў першы раз, як сэнатар, з Пэрынэяў у Парыж і наняў у адным гатэлі пакой на цэлы месяц ды адразу заплаціў гаспадару наперад ўсю належнасьць. Узяўшы грошы, гаспадар гатэлю спытаў сэнатара, ці мае напісаць квіт.

— Нашто, — адказаў Рэно, — Бог нас бачыў, што мы расплаціліся.

— А вы верыце ў Бога? — спытаўся гаспадар гатэлю.

— Зразумела што так, а вы?

— Не, паважаны сэнатар, я ня веру!

— Дык тады зусім іншая справа, дайце мне, калі ласка, хутка паквітаваньне на атрыманыя грошы!

## ВУГОЛЬЛЕ.

Адзін настаўнік, стараючыся добра ўзгадаваць сваіх дзяцей, ніколі не дазваляў ім кампанаваць з асобамі, аб якіх хадзіла нядобрая слава.

Дзеля гэтага аднойчы ягоная 17-ці гадовая дачка Эміля зьвярнулася з такім закідам:

— Але-ж, бацька, ты мяне ўсё яшчэ лічыш маленькім дзецям і ніколі не дазваляеш мне пайсьці да Лізы, баішся, што я ад яе чаго дрэннага набяруся.

Бацька замест адказу выцягнуў з печы загаслы вугаль і падаў яго дачцы, кажучы:

— На вазьмі яго, ён ужо астыў.

Эміля ўзяла вугаль у рукі і адразу іх запэцкала, ды тут-жа пачала іх абтрэпваць аб плаце і яго так-жа запэцкала.

—Ах, ніколі нельга ўсьцерагчыся, каб не запэцкацца, бяручы вугольле, — апраўдвалася Эміля.

— Праўда, — адказаў бацька, — заўсёды каля вугольля ўчэрнішся, а каля вады памочышся, але так-жа і з людзьмі: з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Ад ліхіх сяброў набярэшся дрэнных навыкаў.

## АХВЯРНЫ ВУЧОНЫ.

Малады бразілійскі лекар д-р Наполеон-Родрыг Ляўрэано, які заснаваў спэцыяльную ўстанову для досьледаў лячэньня рака і ўвесь час займаўся ў ёй, памёр сёлета як ахвяра гэтае страшнае хваробы.

Перад сьмерцю ён напісаў ліст да сваіх калегаў хворых на рака, у якім між іным чытаем: «Шукайце Ісуса Хрыста, Які адзіны ёсьць нашым збаўленьнем. Гэта Ён дае нам духовую сілу і супакой, калі навуковыя і мэдычныя сродкі стаюцца безпаможнымі. І калі Вам так здарыцца, не зьнявервайцеся, бо з вамі будзе Бог у сваёй бескаавечнай Любові...»